# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон: Старшыні ЦП № 4-08. Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 2 (37) | 15-га лютага 1930 году | № 2 (37)




ЗЬМЕСТ



(Абавязкова гляді старонку 8-ю)

*Усім арганізацыям Саюзу Сельгаслесрабочых*

## Аб удзелу саюзу ў перавыбарах с/саветаў.

*ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!*

Задачы пабудовы сацыялістычнае сельскае гаспадаркі праз суцэльную калектывізацыю бедняцка-серадняцкіх гаспадарак, задачы „ліквідацыі кулацтва, як клясы" якое шалёна супраціўляецца і перашкаджае калектывізацыі бедняцка-серадняцкіх гаспадарак, патрабуюць усямернага ўзмацненьня работы і ролі сельскіх саветаў у справе сацыялістычнай перабудовы вёскі, патрабуюць узмацненьня батрацка-бедняцкага асяродку ў складзе сельскіх саветаў, каб сельскія саветы сталі сапраўднымі органамі пралетарскае дыктатуры, сапраўднымі арганізатарамі сацыялістычнае сельскае гаспадаркі.

З 15/II па 12/III-1930 году будзе праводзіцца справаздачная кампанія ўсіх сельскіх і местачковых саветаў і перавыбары с/саветаў у раёнах суцэльнае калектывізацыі, а таксама і тых с/саветаў, якія не праявілі сябе ў справе арганізацыі беднаты і батрацтва, у справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі, якія засьмечаны варожымі элемэнтамі, скажаюць клясавую лінію і не забясьпечваюць цьвёрдага кіраўніцтва ліквідацыяй кулацтва, як клясы.

Выходзячы з паказаных задач, надыходзячая справаздачна-перавыборчая кампанія сельскіх саветаў набывае надзвычайна важнае палітычнае значэньне.

Беларускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу Сельгаслесрабочых прапануе ўсім саюзным арганізацыям:

1) Безадкладна прыступіць да падрыхтоўчае работы па мабілізацыі ўсіх сельгаслесрабочых, работніц, батракоў і батрачак для ўдзелу ў справаздачнай і перавыбарчых кампаніях сельскіх і местачковых саветаў.

2) Беларускі Рэспубліканскі Камітэт саюзу высоўвае перад усімі рабачкомамі і сельрабачкомамі задачу—дабіцца 100% удзелу сельгаслесрабочых, работ-

ніц, батракоў і батрачак на справаздачных і перавыборчых сходах сельскіх і местачковых саветаў, а таксама на батрацка-бедняцкіх сходах.

3) Рабачкомам і сельрабачкомам дагаварыцца і дабіцца пастаноўкі справаздач сельскіх і местачковых саветаў на сходах рабочых, батракоў лесарубаў і работнікаў лясніцтв. Разгарнуць навакол работы саветаў жорсткую бальшавіцкую крытыку. На справаздачных сходах правераць, як сельскія і местачковыя саветы праводзяць работу па выкананьні задач партыі аб суцэльнай калектывізацыі бядняцка-сярэдняцкіх гаспадарак, аб арганізацыі батрацтва і беднаты. Як сельскія саветы дапамагаюць калгасам у складаньні вытворчых плянаў, у стварэньні насенных фондаў у абагульваньні сродкаў вытворчасьці і жывёлы. Наколькі рашуча сельсаветы праводзяць практычную работу па раскулачваньні кулакоў, па абароне інтарэсаў батрацтва, па забесьпячэньні выкананьня пляну лесанарыхтовак і інш.

4) Разам з тым заслухаць справаздачы і падвергнуць праверцы работу сельгаслесрабочых і батракоў, якія зьяўляюцца членамі с/савета сучаснага складу з тым, каб апраўдаўшых сябе замацаваць на рабоце ў с/саветах і надалей.

5) Рабачкомы, сельрабачкомы і кожны член паасобку павінны выяўляць кулакоў і кулацкіх агентаў, якія пралезьлі ў саветы і рашуча затрабаваць пераабраньня іх, высоўваючы замест іх батракоў і беднякоў калгасьнікаў.

6) Усе рабачкомы і сельрабачкомы павінны тэрмінова на сваіх пасяджэньнях распрацаваць плян удзелу ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі с/саветаў і папярэдне намеціць кандыдатаў з рабочых, работніц, батракоў і батрачак у склад с/саветаў, якія будуць пераабірацца поўнасьцю або часткова.

7) Па ўсіх саюзных арганізацыях правесьці агульныя сходы рабочых і батракоў, на якіх заслухаць справаздачы с/саветаў, зацьвердзіць плян удзелу ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі і абгаварыць кандыдатуры рабочых, работніц, батракоў і батрачак, якія папярэдне намечаюцца ў склад с савету.

8) БРК высоўвае перад саюзнымі арганізацыямі задачу дабіцца і правесьці ў склад с|саветаў, якія будуць цалкам пераабірацца 40—50% батракоў, батрачак, сельгаслесрабочых і работніц ад агульнага ліку членаў с|саветаў, і ня менш, як 40% у склад прэзыдыумаў с|саветаў, дабіваючыся вылучэньня сельгаслесрабочых на платную работу ў с|саветах.

9) Калі на тэрыторыі аднаго с|савету маюцца 2—3 рабачкомы саюзу, то яны абавязаны папярэдне дагаварыцца паміж сабой з тым, каб арганізавана пад кіраўніцтвам ячэек КП|б|Б, выступаць у час справаздачна-перавыбарчае кампаніі.

10) Саюзныя культустановы і насьценгазэты павінны шпарка прыстасаваць сваю работу па растлумачэньні сярод сельгаслесрабочых і работніц, а таксама сярод калгасьнікаў і бедняцка-серадняцкай часткі сялянства задачы справаздачна-перавыборчае кампаніі с|саветаў. Рэдкалегіям насьценгазэт правесьці нарады рабкораў, на якіх растлумачыць ролю рабкораў у час справаздачна перавыбарчае кампаніі.

11) На акругкомы саюзу, райінструктароў ускладаецца абавязак праверыць выкананьне гэтых дырэктыў і дапамагчы рабачкомам арганізаваць удзел селгаслесрабочых у перавыбарах с|с.

12) Рабачкомы саюзу, не чакаючы напамінкаў і запросаў, павінны сыстэматычна, кожныя 10 дзён, інфармаваць акругкомы саюзу, а па Менскай акрузе БРК саюзу аб ходзе падрыхтоўкі да перавыбараў с|саветаў, аб удзеле ў перавыбарах і выніках удзелу. Канкрэтна рабачкомы абавязаны прысылаць зьвесткі ў наступныя тэрміны: 25|II—5|III—15/III—25|III. К 25|II прысылаецца інфармацыя праведзенай падрыхтоўчай работы да перавыбараў. 5|III, 15|III прысылаецца інфармацыя аб ходзе удзелу сельгаслесрабочых у перавыбарах (колькасьць прысутнічаючых сельгаслесрабочых на справаздачных і перавыбарчых сходах, на сходах беднаты, факты аб актыўнасьці сельгаслесрабочых і батракоў на сходах, колькасьць выступаючых у спрэчках, аб чым гавораць у спрэчках, як батракі даюць адпор кулацкім вылазкам і г. д.). 25/III рабачкомы прысылаюць агульныя вынікі ўдзелу ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі (якая была падрыхтоўка,

як удзельнічалі на справаздачных і перавыбарчых сходах за ўвесь час і на сходах беднаты, паказаць асобна колькасьць абраных у склад с/саветаў, прэзыдыумаў с/с і рэўкамісіі батракоў, саўгаскіх рабочых, лесьнікоў, лесарубаў і інш., у тым ліку жанчын, колькасьць высунутых на пасады старшынь і сэкратароў). Акругкомы саюзу 30/II, 10/III і 20/III і 30/III, на падставе паступіўшых інфармацый рабачкомаў пасылаюць абагуленныя сводкі БРК.

Удзел сельгаслесрабочых у перавыбарах сельсаветаў павінен праходзіць пад лёзунгам:

Ліквідацыі кулацтва, як клясы.

За суцэльную калектывізацыю бедняцка-серадняцкіх гаспадарак.

За масавую калектывізацыю батрацтва.

Ніводнага кулака і кулацкага агэнта не пусьціць у с/савет.

Абіраць у с/саветы толькі тых, хто актыўна будзе працаваць па ліквідацыі кулацтва.

Уся работа павінна праходзіць пад кіраваньнем вясковых арганізацый Компартыі (бальшавікоў) Беларусі.

БРК упэўнены што задачы, якія стаяць перад нашым саюзам, будуць з пасьпехам выканаваны.

З таварыскім прывітаньнем:

Старшыня БРК **Вайтэнка**

Член прэзыдыуму—
Заг. Арг. Аддзелам **Аскерка**

*Усім Акркамітэтам і Рабачкомам Саюзу СГЛР*

## Аб шырокім разгортваньні ўдарніцтва.

Праведзеная саюзам масавая праверка ходу сацспаборніцтва і вынікаў выкананьня палітычна-гаспадарчых дагавораў, паказала, што заклік партыі да рабочае клясы знайшоў жывы водгук сярод сельгаслесрабочых. У выніку чаго ўзьнялася ініцыятыва і энтузіязм рабочае масы вакол хутчэйшага выкананьня гаспадарчых плянаў, уздыму вытворчасьці працы, клясава-сьвядомых адносін да вытворчасьці перабудовы сельскай гаспадаркі на сацыялістычны лад, праз масавую і суцэльную калектывізацыю бедняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Сацспаборніцтва ўзрушыла толькі першыя пласты творчае ініцыятывы рабочае масы. Далейшаму яго разгортваньню павіна быць зьвернута асноўная ўвага ўсіх прафсаюзных і гаспадарчых органаў, праз шырокі рух ударніцтва ва ўсей гаспадарчай і саюзнай рабоце. Трэба, каб кожны прафработнік, гаспадарнік яскрава ўразумеў. што: ударная брыгада ў саўгасе, лясьніцтве і іншым прадпрыемстве ствараецца самімі перадавымі рабочымі, якія ўсю сваю ініцыятыву, энэргію і сілу аддаюць справе гаспадарчага сацыялістычнага будаўніцтва, такім чынам, ударнік зьяўляецца передавым рабочым на вытворчасьці. Ударная брыгада, група ўдарнікаў на вытворчасьці зьяўляюцца перадавым камуністычным атрадам. Ударная брыгада гэта ёсьць цягнік сацыялістычнага спаборніцтва.

Прыдаючы вялікае значэньне справе ўдарніцтва і адзначаючы некаторы рух за апошні час ударніцтва ў саўгасах і зусім слабую ўвагу і падтрымку ініцыятывы ўдарнікаў з боку прафсаюзных і гаспадарчых органаў, наліччa шэрагу момантаў варожых адносін да ўдарнікаў, як з боку аддзельных гаспадарнікаў, а таксама і адсталай часткі рабочых (саўгас Фаніпаль), дзякуючы чаму яшчэ не ва ўсіх саўгасах, лясьніцтвах і лесанарыхтоўках маюцца ўдарныя брыгады, нячуласьць, костнасьць, бюракратызм і несвоечасовае рэагаваньне на высоўваемыя прапановы з боку ўдарнікаў перашкаджаюць апошнім заняць перадавое месца ў справе арганізацыі вытворчасьці. Таму саюзнымі органамі і ўсім саюзным актывам гэтым перашкодам у справе ўдарніцтва павінна быць аб'яўлена самая бязьлітасная барацьба.

Той гаспадарнік-прафработнік, які сёньня яшчэ не ўразумеў задач ударніка на вытворчасьці і не дапамагае, ці перашкаджае разьвіцьцю ўдарніцтва, зьяўляецца прамым ці косьвеным шкоднікам сацыялістычнага будаўніцтва.

Для шырокага разгортваньня ўдарніцтва ў прадпрыемствах сельскай і лясной гаспадаркі, БРК саюзу прапануе:

I) Арганізаваць ініцыятыву рабочай масы вакол выкананьня гаспадарча-палітычных дагавораў, а разам з гэтым і вакол выкананьня 5-ці гадовага пляну ў скарочаны тэрмін. Дапамагчы актыўным рабочым, якія праяўляюць ініцыятыву ў выкананьні гаспадарча-палітычных дагавораў, арганізавацца ім у ўдарныя брыгады.

2) Акркамітэтам і рабачкомам павясьці самаю рашучаю барацьбу з усялякага роду праявамі недаацэнкі работы ўдарных брыгад на вытворчасьці, зьнішчыўшы самым рашучым чынам выпадкі цкаваньня ўдарнікаў аддзельнымі адсталымі рабочымі, стварыўшы такія ўмовы ў працы ўдарнікаў, якія-б забясьпечвалі поўнае выканьне гаспадарчых дагавораў і мелі б уплыў на астатнюю частку рабочых па ўцягненьні іх да актыўнага гаспадарчага будаўніцтва.

3) На шырокіх агульных рабочых сходах і вытворчых нарадах дэталёва растлумачыць рабочай масе аб ролі і задачах ударніка на вытворчасьці і якое месца павінна заняць ударная брыгада ў справе сацыялістычнага спаборніцтва і арганізацыі вытворчасьці.

4) У лютым месяцы па раёнах правесьці шырокія нарады ўдарнікаў для прапрацоўкі пытаньняў, зьвязаных з правядзеньнем вясеньняй пасеўнай кампаніі так, каб работа ўдарных брыгад і кожнага ўдарніка паасобку была накіравана па шляху непасрэднага выкананьня пастаўленых задач партыяй у час правядзеньня вясеньняй с.-г. кампаніі; на паднацьцё ўраджайнасьці, пашырэньне яравога кліну, падняцьце вытворчасьці працы, поўнага пераходу на зьдзельшчыну, патаненьню сабекаштоўнасьці прадукцыі, рацыянальнага скарыстаньня трактароў, с.-г. машын, цягавай коннай сілы і інш.

5) Сацыялістычнае спаборніцтва саўгасаў і іншых прадпрыемств сельскае і лясной гаспадаркі з калгасамі і работа ўдарных брыгад павінны садзейнічаць хутчэйшаму правядзеньню суцэльнай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у працягу двух год, арганізацыі працы ў калгасах, абагульваньню сродкаў вытворчасьці, захаваньню і разьвіцьцю жывёлагадоўлі.

6) Забясьпечыць кіраўніцтва сац. спаборніцтвам з боку прафорганаў так, каб на працягу 30 году ня было ні аднаго прадпрыемства сельскае і лясной гаспадаркі без аднэй ці некалькіх ўдарных брыгад і пераходу ад ударных брыгад да ўдарных саўгасаў, лясьніцтв, лесараспрацовак, торфзаводаў, мэліарацыі і інш.

7) Прыняць рашучыя крокі да вылучэньня з ліку ўдарнікаў на кіруючую гаспадарчую, савецкую і прафсаюзную работу.

За старшыню БРК
саюзу СГЛР **Аскерка.**

Заг. АТЭ БРК **Вяжэвіч**

*Акруговым Камітэтам саюзу Сельгаслерабочых.*

## Аб узмацненьні падпіскі на 3-ю пазыку індустрыялізацыі сярод сэзонных рабочых.

Падпіска на 3-ю пазыку індустрыялізацыі сярод членаў н/саюзу на сёньнешні дзень характэрызуецца наступнымі лічбамі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1) Сярод рабочых саўгасаў | распаўсюджана на | 251.111 р. | ці 107 | проц. зарплаты |
| 2) Сярод лясной варты . . | " | " 149.250 " | " 90 | " " |
| 3) Служачыя і спэцыялістыя | " | " 180.900 " | " 130 | " " |
| 4) Рабочыя лесараспрацов. | " | " 82.375 " | " 80 | " " |
| 5) Рабочыя адзіночкі . . . | " | " 203.985 " | " 78 | " " |
| 6) Батракі . . . . . . . . | " | " 31.505 " | " 24 | " " |
| 7) Прафработнікі . . . . . | " | " 9.514 " | " 160 | " " |

А ўсяга такім чынам наш саюз даў падпіскі на 3-ю пазыку на 91.1000 руб, сярод жа сялянства распаўсюўжана (па 3 акругах) пры ўдзеле н/саюзу толькі 11.480 руб.

Прымаючы пад увагу, што падпіска сярод сэзонных рабочых, асабліва лесарубаў, далёка не ахапіла ўсяго складу працуючых, кепська таксама праведзена сярод штатных рабочых (лясьніцтвы) і сярод сялянства —Прэзыдыум ЦСПСБ па н/дакладу аб распаўсюджваньні падпіскі адзначыў вельмі слабую працу н/саюзу ў гэтым напрамку (гл. дадатак).

У сувязі з гэтым БРК саюзу прапануе В/разгарнуць работу па падпісцы на 3-ю пазыку індустрыялілацыі, асабліва сярод адстаўшых груп членаў н/саюзу і сярод сялянства. У сучасны момант у зьвязку з разгортваньнем сэзону па лесараспрацоўках, работа н/саюзу па распаўсюджваньні 3-й пазыкі сярод лесарубаў, возчыкаў і іншых груп занятых на гэтых работах, павінна быць пастаўлена на належнюю вышыню і вясьціся ў напрамку 100 проц. ахвату падпіскай усіх рабочых лесараспрацовак.

На агульных сходах шырока растлумачце рабочым-лесарубам і возчыкам значэньне пазыкі дзяржаве ў сувязі з індустрыялізацыяй нашай краіны і ўзмацненьне яе абароназдольнасьці. Пры практычным правядзеньні гэтай працы, неабходна стварыць пры рабачкомах камісіі садзейнічаньня падпісцы, а таксама і дабраахвотныя групы з ліку саміх лесарубаў і возчыкаў. Разам з гэтым трэба шырока разгарнуць работу па распаўсюджваньні падпіскі сярод батрацтва, а таксама і сярод адстаўшых груп штатных рабочых (лясная варта).

Згодна зьвестак Лесбелу аб колькасьці працуючых лесарубаў і возчыкаў, а таксама і паведамленьня аб падпісцы да сёньняшняга дню для таго, каб была 100 проц. падпіска сярод усіх груп— Вам неабходна дадаткова распаўсюджыць падпіскі:

1) сярод батракоў на 46.000 руб.
2) сярод лесарубаў і возчыкаў на 900.000 „
3) сярод лясной варты на 16.400 „
4) сярод інш. груп на 80.000 „

і сярод сялянства максімальна разгарнуць работу да выкананьня тых плянавых заданьняў, якія дадзены Урадам.

Аб ходзе работы па ахвату падпіскай на 3-ю пазыку памянёных адсталых груп, паведамляйце БРК саюзу 2 разы ў месяц (1-га і 15-га).

Работу па падпісцы неабходна закончыць да 15/III-г. г.

Старшыня БРК **Вайтэнкаў**

Заг. Арг. Аддз. **Аскерка**

*Усім Акругкомам і Рабачкомам Саюзу СГЛР.*

## Аб поўным зборы сродкаў, сабраных ў першы і другі дні індустрыялізацыі.

6-га жніўня і 25 сьнежня 1929 г. праводзіліся дні індустрыялізацыі. Праца ў гэтыя дні ўтваралася ў карысьць фонду індустрыялізацыі краіны. Да гэтага часу значная колькасьць рабачкомаў не перавяла зробленых у гэтыя дні сродкаў у Акругкомы і БРК саюзу, куды яны павінны былі быць пераведзены, згодна дырэктыў Бел. Рэс. Камітэту (гл. Білюцень № 11 ад 15 верасьня 29 г).

Рабачкомы нядбайна адносяцца да справы ўзысканьня гэтых сродкаў і пераводу іх у Акругкомы і Бел. Рэсп. Камітэт саюзу.

Пагэтаму БРК саюзу прапануе ўсім рабачкомам, якія яшчэ не перавялі сродкаў у фонд індустрыялізацыі, як за першы, так і за другі дзень індустрыялізацыі, безадкладна перавесьці гэтакія ў Акругкомы саюзу, а па Менскай акрузе- у БРК саюзу.

Акругкомам саюзу праверыць асабовыя рахункі рабачкомаў і ў адносіне да рабачкомаў, якія не перавялі да гэтага часу грошы, прыняць самыя рашучыя меры, аж-да прыцягненьня да адказнасьці Таксама праверыць работу рахункаводаў АК саюзу па збору гэтых сродкаў.

Рэўкамісіям і райінструктарам прапануецца прасачыць за выкананьнем гэтых паказаньняў.

За старшыню БРК саюзу СГЛР **Аскерка**

Кіраўнік спраў **Юшкевіч**

## Пастанова

### Прэзыдыуму ЦСПСВ аб Грамадзкім Кантролі над захаваньнем запасу хлеба.

1) У мэтах забесьпячэньня сыстэматычнага грамадзкага кантролю над захаваньнем якасьці зярна і правільным разьмяшчэньні, Прэзыдыум ЦСПСБ лічыць неабходным, каб саюзныя арганізацыі ўзялі шэфства над хлебнымі складамі, якое павінна выразіцца ў наступным:

а) у сыстэматычным наглядзе за становішчам складаў у сэнсе забесьпячэньня іх праціпажарнымі сродкамі і вартай, шляхам скарыстаньня ініцыятывы добраахвотных фабрычна-заводзкіх і пажарных дружын;

б) у праверцы правядзеньня адпаведнымі арганізацыямі работы па разьбіваньні наяўнай складскай плошчы на склады, упаўне прыгодныя для захаваньня хлеба, прыгодныя для часовага хаваньня і зусім няпрыгодныя;

в) у праверцы ступені ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў па разгрузцы складачных памяшканьняў, зусім няпрыгодных для хаваньня хлеба;

г) у праверцы правядзеньня адпаведнымі арганізацыямі мерапрыемстваў, забясьпечваючых захаваньне якасьці хлеба ў адпаведнасьці з інструкцыяй Дзяржхлебінспэкцыі.

2. У сельскіх мясцовасьцях шэфства над хлебнымі складамі ажыцьцяўляецца прафарганізацыямі, камсамольскімі ячэйкамі і каапэрацыйным актывам.

3. Шэфства над хлебнымі складамі ажыцьцяўляецца фабзаўмясцкомам па прынцыпу іх тэрытарыяльнага разьмяшчэньня (даная ўстаноўва, альбо прадпрыемства шэфствуе над тым хлебным складам, які блізка ад яго разьмешчаны з такім разьлікам, каб не адзін склад не застаўся бяз шэфа). Разьмеркаваньне хлебных складаў паміж фабзаўмясцкомамі вытвараецца ў гарадох. Акрпрафбюро сумесна з Акр. Гандлю, а ў раёнах-упаўнаважанымі АПБ і РВК.

4. У кожным складзе павінна быць вывешана кніга, у якой шэф адзначае вынікі свайго наведваньня і мерапрыемствы, накіраваныя для зьнішчэньня выяўленых недахопаў. Загадчыкі складамі павінны зьнішчыць адзначаныя ў кнізе недахопы ў адпаведнасьці з прапановамі шэфа, узгадняючы іх з вышейстаячымі арганізацыямі ў тых выпадках, калі правядзеньне ў жыцьцё гэтых прапаноў выклікае ў іх тыя ці іншыя сумленьні, альбо выдаткі.

5. Ва ўсіх выпадках, калі шеф у працэсе сваёй работы сустрэкаецца з тымі, ці іншымі цяжкасьцямі, альбо неясьнасьцямі, ён павінен зьвярнуцца за дапамогай ў органы Дзяржхлебінспэкцыі, альбо да мясцовага аграпэрсаналу, які абавязан аказаць шэфскім арганізацыям усяпякае садзейнічаньне.

6. Шэфы павінны высьвятляць сваю работу на старонках друку і пэрыядычна ставіць справаздачы аб выніках праробленай работы і становішчы складаў, як на агульных сходах свайго калектыву, так і на агульных сходах калектыву арганізацый, якія ведаюць хлебнымі запасамі.

7. Шэфам прымяніць практыку заключэньня паміж сабой дагавораў на сац. спаборніцтва ў мэтах 100%-га захаваньня хлебных запасаў.

8. Шэфы ў сваёй практычнай рабоце павінны патрымліваць цесную сувязь з органамі РСІ, Дзяржхлебінспекцыяй, Саюзхлебу для сувязі з гэтымі арганізацыямі выдзяляюць аднаго прадстаўніка.

9. Прапанаваць усім ЦП і АПБ разгарнуць шырокую масавую работу сярод членаў саюзу аб важнасьці гэтых мерапрыемстваў і прыняць усе меры, каб шэфства над усімі хлебнымі складамі было праведзёна да 25/XII-29 г.

10. Прасіць НКГандлю забесьпечыць шэфскія арганізацыі адпаведнымі кіруючымі матар'яламі аб парадку захаваньня запасаў хлеба.

*Усім Акркамітэтам, Рабачкомам і Сельрабачкомам Саюзу СЛГР.*

### Аб удзеле нашага саюзу ў правядзеньні „Месячніку Ашчаднасьці".

Ажыцьцяўленьне намечанага пяцігодкай пляну сацыялістычнага будаўніцтва патрабуе прыцягненьня сродкаў усіх працоўных.

Удзел у мабілізацыі сродкаў, актыўнае садзейнічаньне дзяржаўнай ашчаднай справе — адна з важнейшых задач нашага саюзу ў сучасны пэрыяд.

У мэтах забясьпечаньня павялічэньня ўкладаў па заданьню Ураду з 1-га лютага 1930 г. праводзіцца „Месячнік Ашчаднасьці“.

Надаючы вялікае палітычнае значэньне прыцягненьню сродкаў працоўных для сацыялістычнага будаўніцтва шляхам укладаў і дробных зьберажэньняў і ўлічваючы, што працоўнае сялянства ў гэтым значна адстала ад гораду, усім арганізацыям саюзу СЛГР неабходна:

1. Месячнік Ашчаднасьці выкарыстаць для поўнага выкананьня ўзятых н/саюзам задач па ўцягненьні 100 000 руб. сялянскіх сродкаў у ашчадныя касы. (гл. дагавор з Галоўнай Касай Ашчаднасьці Білюцень БРК саюзу №14-32 ад 15/XI-29г.).

2. Побач з выкананьнем сац. дагавору па ўцягненьні сялянскіх сродкаў разгарнуць работу па ўцягненьні ўкладчыкамі ашчадных кас усяе рабочае масы членаў саюзу, праводзячы гэту работу пад пунктам погляду „Усе працоўныя зьберажэньні пяцігодкі індустрыялізацыі, на перабудову сельскай гаспадаркі-кожны працоўны гораду і вёскі павінен стаць укладчыкам Дзяржашчадкасы“.

3. Усе пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем „месячніку“ абгаварыць на пасяджэньнях рабачкомаў, сельрабачкомаў і агульных сходах. Прыцягваць з саюзнага актыву, у якасьці прапагандыстаў і індывідуальных вярбоўшчыкаў для практычнай работы па ўцягненьні новых укладчыкаў.

4. Праверыць і прасачыць за правядзеньнем у жыцьцё ранейшых дырэктыў аб стварэньні пры рабачкомах сельрабачкомах камісій садзейнічаньня, дзяржкрэдыту і ашчаднай справе і прыняць меры па ажыўленьні іх работы. Аказаць практычную дапамогу камісіям садзейнічаньня па трыманьні сялянамі і сельгаслесрабочымі аблігацый дзяржаўных пазык, шляхам калектыўнай здачы іх на хаваньне ў ашчадныя касы.

5. Усе неабходныя матар'ялы агітацыйнага, інфармацыйнага характэра атрымаць ад фінансавых органаў, крэдытных установаў і ашчадных кас, устанавіўшы з імі сталую сувязь.

6. Скарыстаць усе культустановы пры рабачкомах, сельрабачкомах, (клюбы, хаты-чытальні, бібліотэкі, насьценгазэты і інш. сродкі масавай работы) для прапаганды ашчаднай справы сярод членаў саюзу і бедняцка-серадняцкай масы сялян.

7. Неабходна скарыстаць існуючыя ўдарныя брыгады сац. спаборнітцва і іншыя мэтады для вярбоўкі новых укладчыкаў і ўкладаў.

8. Садзенічаць замацаваньню і асьвяжэньню апарату ашчадных кас і зьнішчэньню валакіты, грубых і нядбайных адносін работнікаў ашчадных кас да ўкладчыкаў.

Не пазьней 5-га сакавіка г.-г. Акркамітэты і рабачкомы павінны даслаць у БРК саюзу матар'ял аб выніках удзелу ў „Месчніку“ з паказаньнем канкрэтных посьпехаў ад гэтага ўдзелу ў ступені выкананьня сац дагавору.

За старшыню БРК
саюзу СГЛР **Аскерка**

Кіраўнік спраў **Юшкевіч**

## Аб арганізацыі ячэек П.Н. у саўгасах.

*(Дырэктыва Ц.К. Саюзу)*

Задачы выкананьня плянавых заданьняў у справе разгортаваньня работы з няпісьменнымі і малапісьменнымі сярод рабочых саўгасаў, а тым самым выкананьне рашэньняў ЦК Усе КП (б) і ЦК Сельгаслесрабочых аб аднагадовым навучаньні пастаяных рабочых і не пазьней 2-х год усіх рабочых саўгасаў, патрабуюць актыўнага ўдзелу ў лікбезпаходзе ўсіх пісьменных рабочых, спецыялістых і служачых ня толькі ўнутры саўгасу, але і вакольных калгасах, станіцах, сёлах.

Утвораныя абгляды і даныя, якія маюцца ў ЦК саюзу гаворыць аб тым, што далёка не ва ўсіх саўгасах маюцца ячэйкі „прэч няпісьменасьць“, а якія маюцца работаюць нездавальняюча.

Пагэтаму нашы саюзныя органы павінны аказаць усялякае садзейнічаньне

справе арганізацыі і прадукцыйнай работы ячэек ПН, дапамагаючы тым самым выкананьню ўскладзеных задач у ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых і дапамогі культурнымі сіламі вакольным калгасам і вёскам.

У сувязі з дзесяцігодзьзем дэкрэту ўраду аб ліквідацыі няпісьменнасьці і масавай праверкай работы па лікбезу, ЦК саюзу будзе лічыць важнейшым недахопам работы саюзнага органа, калі ня былі выкарастаны ўсе магчымасьці ў гэтай палітычна важнай рабоце.

Згодна: Кіраўнік спраў БРК-ту **Юшкевіч**.

## Рабачкомы і сельрабачкомы!

**Беларускі Рэспубліканскі Камітэт Саюзу чакае ад Вас наступных зьвестак:**

1. **Колькі рабочых і батракоў уцягнута ў ударныя брыгады ў дзень пахаваньня т. Леніна (27-га студзеня).**
2. **Колькі рабочых і батракоў у гадавіну сьмерці т. ЛЕНІНА ўступіла ў шэрагі партыі і камсамолу.**
3. **Колькі пры непасрэдным удзеле рабачкому арганізавана калгасаў.**
4. **Колькі батракоў і іншых сельгаслесрабочых уцягнута ў калгасы.**
5. **Колькі пры дапамозе рабачкому ўцягнута сялянскіх сродкаў у касы ашчаднасьці (паказаць колькі ўкладчыкаў і якая сума сродкаў як сярод сялян, так і сярод членаў нашага саюзу).**

**На гатыя 5 запытаньняў адкажыце зараз-жа, па атрыманьні бюлетэня. Адказы шліце не акруговаму камітэту, а непасрэдна Бел. Рэсп. Камітэту саюзу Сельгаслесрабочых (г. Менск, Дом Працы). З адказам не затрымлівайцеся, высылайце зьвесткі з такім разьлікам, каб Бел. Рэс. К-т атрымаў іх ад Вас не пазьней 25-га лютага 1930 г.**

**За старшыню БРК АСКЕРКА.**

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.** За адказны рэдактар—**Аскерка.** Намесьнік яго: **Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 1213. Зыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдома.